Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 23 (75) | Вільня, 21-га верасьня 1935 г. | Год 3-ці.

## Ліга Нацый і італа-абісінскі конфлікт.

Чым можна вытлумачыць, што ў Англіі раптам адазваўся такі надзвычайны сэнтымэнт да Лігі Нацый і што яна сяньня зьяўляецца аднэй з дзяржаваў, каторай публічная апінія, а прынамся значная яе частка дамагаецца энэргічных сродкаў проціў Італіі? Чаму чатыры гады таму назад, калі Японія востра выступіла проціў Жэнэвы, афіцыяльная палітыка В. Брытаніі шукала дзіраў у пакце Лігі, каб злагодзіць тое, што сяньня так моцна ганіць. Чаму ня выступала Англія, як абаронца Лігі і трактату тады, калі Нямеччына ламала гэтыя трактаты сваім збраеньнем?

Адказ на гэтыя пытаньні даволі лёгкі. Не падлягае сумліву, што абісінскі конфлікт заварыўся так моцна пад уплывам двух дзейнікаў: Камітэту Імпэрыяльнай Абароны (Imperial Defence Committee) і брытыйскай Адміралціцыі. Гвалтоўная кампанія італьянскай прэсы, скіраваная да стварэньня вялікай рымскай імпэрыі ў Афрыцы не магла не занепакоіць гэты Камітэт Імп. Абароны, які якраз дбае аб дабро і спакой „British Commonweaelth", і той галоўны орган, які за гэты спакой адказвае — ангельскі флёт. І вось тут маем яскравы прыклад, на чым абаснуўваецца „шчыры пацыфізм" на форуме Лігі Нацый, прыклад, калі ангельская палітыка, ды і ня толькі ангельская, умее пагадзіць мірныя цноты з уласнымі інтарэсамі. Сяньня Англія для агульнага дабра гатова на прыняцьце усякіх санкцый проціў Італіі і гатова поўніць функцыю міжнароднага жандарма з даручэньня Лігі. Прыпомніць трэба, што роля такога жандарма ня вельмі усьміхалася Англіі пасьля апошняй вайны і калі у 1924 г. т. званы жэнэўскі пратакол быў ёю адкінены, то сталася гэта дзякуючы таму, што ангельская апінія ў большасьці сваёй была настроена проціў таго, каб караблі Яго Каралеўскае Вялічнасьці былі аддадзены ў распараджэньне арэопагу над Леманам. Англія гатова на ахвяры для пацыфізму толькі тады, калі мае на мэце свае ўласныя інтарэсы.

Было-б аднак несправядлівасьцю казаць, што толькі Англія вядзе такую палітыку. Тое самае робяць і Францыя і „найбольш мірнанастроены" СССР ды іншыя сябры Лігі. Яшчэ нядаўна, пасьля падпісаньня ангельска-нямецкага марскога дагавору, Францыя, рэванжуючысь Англіі, зьблізілася з Італіяй і, як пісалася, нават заключыла італа-францускі дагавор. Але відаць і яна спужалася „стварэньня вялікай рымскай імпэрыі" ў Афрыцы, якая-б пагражала і яе калёніям і стала побач з Англіяй у рады праціўнікаў Італіі; меншыя-ж дзяржавы ня хочуць вайны таму, што баяцца ўсьцяж узрастаючай сілы Нямеччыны, якая можа скарыстаць з спрыяючай нагоды і атамсьціць за вэрсальскі трактат, а Саветы выкарыстоўваюць абісінскі конфлікт як добры матэр'ял для камуністычнай прапаганды проціў фашызму і капіталізму.

Цікавы аркестр, але трэба прызнаць, што сыграны. Ляваль і Хор іграюць усьцяж сэнтымэнтальную арыю аб італьянскай прыязьні, але адначасна, відаць для яе ажыўленьня, карыстаюцца гарматнымі стрэламі і трэскам самалётных матораў ды шумам турбінаў караблёў. Для дабра Лігі і Эўропы, — выцягіваюць высака, — гатовы нават прынесьці ў ахвяру гэтую прыязьнь, а ўсе іншыя дзяржавы саліdарна ім акомпанююць.

І вось гэтая, „Рада справядлівых" мае вырашыць мірным шляхам конфлікт двух народаў: італьянскага і абісінскага. Ясна, што ў кожным конфлікце можна дайсьці да компрамісу, але тады, калі судзьдзі не зацікаўлены ў ім. І тут якраз, як кажа нямецкая прыказка „зарыты сабака", бо дзякуючы гэтаму зацікаўленьню Ліга Нацый асягнула дагэтуль адваротныя рэзультаты: замест улагоджаньня, яшчэ болей завастрыла італа-абісінскі конфлікт. Сяньня ўжо Ліга Нацый паважна ўстрывожана і праект санкцыяў адносна Італіі робіцца штораз больш актуальным, бо Муссоліні ня хоча ісьці на ніякія ўступкі.

Апошнімі днямі „дучэ" склікаў Раду Міністраў, якой зрабіў даклад аб важным і палітычным палажэньні Італіі.

З ваеннага пункту гледжаньня — заявіў Муссоліні — нашыя прыгатаўленьні ў Усходняй Афрыцы робяцца вельмі інтэнсыўна, каб заручыць перавагу нашых сілаў у параўнаньні да сілаў Абісініі, дзе мобілізацыя ідзе ўжо поўным ходам. Прамовы Хора і Ляваля не маглі быць іншымі, чымсь яны былі, з увагі на пазыцыю Францыі і Англіі ў адносінах да статуту Лігі Нацый. Значыцца прамовы гэтыя ня былі нечаканымі і таму не зрабілі таго ўражаньня, якога спадзяваліся прамоўцы, пужаючы Італію Лігай Народаў.

Рада Міністраў сьцьвярдзіла, што навакол італа-абісінскага конфлікту згрупаваліся антыфашыстоўскія заможныя сілы. Дзеля гэтага Рада міністраў катэгарычна заяўляе, што пры вырашэньні конфлікту ня могуць быць дапушчаны тыя компрамісы, якія высоўвае Ліга, пасьля аграмаднай затраты высілкаў са стараны Італіі і пасьля таго, як уматываваны італьянскі мэмор'ял не спаткаў у Жэнэве рэчовых контр-аргумэнтаў.

З гэтага вынікала-б, што Італія рашыла ваяваць.

Муссоліні нават ідзе далей. У адказ на пагрозы з боку Лігі Нацый, пагражае сам, перадусім Англіі, нават сусьветнай вайной. У гутарцы з корэспондэнтам „Матэн" Муссоліні заявіў наступнае:

„Мы з шчырай прыязьняй адносіліся да ангельскага народу, аднак сустрэліся з дзіўным зьявішчам: народ які зьяўляецца амаль першым па магутнасьці ў сьвеце, адмаўляе нам права да беднага куска зямлі пад афрыканскім сонцам.

Мы будзем ісьці нацянькі і ніколі ня зробім шагу, варожага якому-небудзь эўрапэйскаму народу. Аднак, калі гэты шаг будзе зроблены проціў нас, успыхне вайна. Італія ня хоча вайны, але не баіцца яе.

Ці будзе Францыя дамагацца санкцыяў? Гэта ўсё, што яе пытаю. Хай другія ведаюць, што **санкцыі — гэта небясьпека зьмены карты Эўропы і такая небясьпека паўстане, калі Італія далучыцца да лагеру тых, якія дамагаюцца больш справядлівага падзелу".**

Што-ж на ўсё гэта кажа Абісінія?

Яна таксама не згаджаецца на компрамісы, крыўдныя для яе і гатова памерці ў вайне, чымсь быць жывым рабом.

Як бачым Ліга Нацый апынулася у вельмі цяжкім палажэньні, якое пагражае ёй утратай яе павагі і ўсякага значэньня. Як вырашыцца конфлікт, пакуль што напэўна прадбачыць няможна, але ўсеж-такі выглядае на тое, што бяз італа-абісінскай вайны не абойдзецца.

*М.*

## Беларускі Скаўтынг.

У Вільні, як ужо падавала ў свой час наша газэта, заснавалася ў гэтым годзе пры Віленскай Беларускай Гімназіі дружына Беларускіх Скаўтаў імя Фр. Багушэвіча. Скаўтынг мае тымчасам выключна школьны характар і разьвівае сваю працу сярод вучнёўскай моладзі.

Гісторыя Беларускіх Скаутаў пачынаецца, аднак, ня з гэтага часу. Як ведама, Беларускі Скаўтынг быў зарганізаваны яшчэ ў 1922—3 гадох, у той-жа Беларускай Гімназіі ў Вільні. Існавала тады аж 2 дружыны, якія абыймалі каля 90 чалавек. На чале скаўтаў стаяў паручнік Прохараў, вучань Гімназіі. З часам, аднак, так добра пачаўшы працу, скаўтынг замёр і ўрэшце зусім распаўся. Зразумела, традыцыя Скаўтынгу не памёрла. Ад таго часу шмат было спробаў зарганізаваць Скаўтынг, які абхапляў-бы ня толькі школьную беларускую моладзь, але пашыраўся-б на ўсю Маладую Беларусь. Спробы дзеля розных прычын, больш-менш ведамых усім, не маглі ажыцьцявіцца і заўсёды канчаліся няўдачай.

Сучасны Скаўтынг, хоць зарганізаваны зусім новымі людзьмі, ёсьць адным з злучвоў у ланцугу гэтых спробаў — і ўжо сам факт, што ўрэшце ідэя беларускага скаўцтва знайшла рэальна-арганізацыйнае выражэньне, шмат значыць. У кароткім часе арганізатары змаглі зацікавіць моладзь скаўцтвам і ўрэшце моладзь зразумела, што беларускі скаўтынг з яго асаблівымі заданьнямі ў беларускім жыцьці вельмі патрэбны. Скаўтынг усьцяж узрастае лічбова; ня толькі, колькасна можа пахваліцца беларускае скаўцтва, але і духова, якасна. Ня гледзячы на кароткі час свайго існаваньня скаўты нашыя змаглі прарабіць вялікую працу як унутры, так і навонкі арганізацыі.

Сярод кандыдатаў на скаўтаў і сярод самых скаўтаў праводзілася грамадзкая й узгадаваўчая праца. Скаўты на зборках адбывалі вучобу, пазнавалі адзін другога й адбывалі скаўцкую муштру. Маладняк здысцыплінаваўся, асягнуў значную ўнутраную спайку.

Пэўныя перашкоды спатыкалі скаўты ў тэрміналёгіі для каманды. Вялася ў гэтым кірунку сталая праца і ў сучасны мамэнт ужо можна сказаць, перашкоды пераможаны. Апрацаваны і зацьверджаны праект вопратак беларускіх скаўтаў; на вопратках, апрача агульна-скаўцкіх адзнакаў, будуць адзнакі нацыянальныя. Творацца беларускія скаўцкія песьні.

Скаўты ўжо выдалі сваю газэту „Беларускі Скаут", якой выйшаў яшчэ толькі адзін нумар.

Трэба спадзявацца, што газэта будзе выходзіць і надалей.

Памінаючы больш дробныя вонкавыя выступленьні нашых скаўтаў, адзначым талькі галаўнейшыя.

Між іншым, дэлегацыя (з 8 чалавек) была на Агульна-Славянскім Скаўцкім Зьлёце ў Спале, які адбыўся адначасна з юбілейным зьлётам Польскага Скаўцтва, дзе вяла шырокую інфармацыйную работу. Беларускія скаўты прамаўлялі пабеларуску, запісаліся пабеларуску ў памятныя кніжкі сяброў іншых нацыянальнасьцяў

„Будзь гатоў!“ раздавалася і між клічаў у іншых мовах. На машце рэяў высока і беларускі сьцяг. Беларускія Скаўты інфармавалі сваіх сяброў аб Беларусі, беларускім народзе, яго творчасьці, працы і т. п. скаўты абазавалі, рабілі экскурсыі і здабывалі між іншым дыплём скаўцкага бегу. Ясная рэч, што ў будучыні скаўты разгорнуць сваю працу шырэй.

Беларускі Скаўт пойдзе вясёлай песьняй, з музыкай на беларускі прастор. А ён – скаўт—любіць волю, і сонца, і свой беларускі край і народ.

На шляху сваей працы скаўты напатыкаюць перадусім матэр'яльныя перашкоды. Недахоп сродкаў часта паралiжуе найлепшыя пляны й намеры.

Дзеля гэтага сярод старэйшага грамадзянства паўстала Кола Сымпатыкаў Беларускіх Скаутаў, якое, праўда, яшчэ наагул малое, з часам узмоцніцца й прыйдзе з актыўнай помаччу Беларускаму Скаўту. Ня толькі матэр'яльная помач, з рэштай, патрэбна скаўтам, ня менш патрэбна і помач маральная, духовая. Несьвядомасьць, а часта й сьвядомая варожасьць ў адносінах да пачынаньняў скаўтаў існуе сярод саміх-жа беларусаў. Хай-жа кожны зразумее, што скаўты — гэта будучыня народу, гэта будучыя сьвядомыя, выробленыя грамадзяне, падгатаваныя ўсебакова да творчае грамадзкае працы. З рэштай самі скаўты адпорны на гэткія адносіны. Не дарма-ж у сваёй прэсе яны з націскам зазначаюць, што скаўт вучыцца глядзець на сьвет вачыма вольнага чалавека.

Прыемна чуць гэтыя словы з вуснаў маладога пакаленьня, якое йдзе на зьмену старэйшым (і часта ўстарэўшым) работнікам. Скаўты нашы належна зразумелі сваё заданьне й мэты й дасканальна разумеюць, што ня ў форме, ня ў вопратцы скаўцкай само скаўцтва, але ў зьмесце, у працы для народу й Бацькаўшчыны.

Будзьце ж гатовы! *П.*

## Вялікія манэўры ў сав. Украіне.

З Кіева паведамляюць, што ў Сав. Украіне адбываюцца вялікія манэўры Чырвонай Арміі. Вельмі багата прадстаўлены на гэных манэўрах бранiраваныя маторныя часьці, танкі і авіацыя. Агульнае зацікаўленьне выклікаюць паветраныя манэўры, якія адбываюцца ноччу. Кіраўнікі манэўраў зварочваюць асаблівую ўвагу на арганізацыю супрацоўніцтва арміі з насельніцтвам і на даваенную падгатоўку. На дарогах, па каторых праходзілі войскі, былі пастаўлены трыумфальныя аркі з партрэтамі Сталіна і Варашылава. На манэўрах прысутнічалі прадстаўнікі ваенных місіяў Францыі, Італіі і Чэхаславаччыны. Манэўры працягнуцца тыдзень.

## Савецкая абычайнасьць.

Вядомы нашым чытачом, па неаднакроць перадрукоўваных намі ў скарочаньнях маскоўскіх яго корэспондэнцыях, супрацоўнік варшаўскае „Gazety Polskiej“ п. Отмар падае ў № 253 за 13 гэтага верасьня цікавае апісаньне сучасных адносін паміж старым і маладым пакаленьнем у СССР.

П. Отмар, паміж іншым, піша: ...„ані ня трэба даваць веры ўрачыстым заявам, паводле якіх — „проблема „айцоў і дзяцей“ перастала ў СССР істнаваць. „Усе пакаленьні краю, рука аб руку, будуюць супольнымі сіламі социялістычнае грамадзтва“ гэтак запэўняе „Комсомольская Правда“.

А тымчасам:

„Проблема „айцоў і дзяцей“ ані на момант не перастала быць у Саветах актуальнаю, а тэма гэтая бязсумліўна чакае новага Тургенева, — калі зьяўленьне гэтак моцна „гнілога лібэрала“ можна наагул у сучаснай савецкай літэратуры дапусьціць.

Справа „чацьвёртай запаведзі“ (аб паважаньні бацькоў—Рэд.) праходзіла розныя стадыі — у розныя пэрыяды рэвалюцыі. Спачатку — моладзь, а таксама і дзеці, якія ў гады „ваеннага камунізму“ бралі жывы удзел у палітычным жыцьці, былі элемэнтам у сто разоў болей прасавецкім, чымсь іхныя бацькі. Гэта было зразумелым: на старэйшых людзей, як утрымальнікаў дружыны, зваліўся ўвесь цяжар непраўдападобных матар'яльных клопатаў у тыя гады страшэннай галіты і голаду, прычым самазахаваўчы інстынкт няраз піхаў „айцоў“ на *антысавецкія* шляхі. Стане таго, калі прывядзём прыклад самавольнага ўтойваньня збожжа — зьявішча, якое, у слабеючай апошнім часам форме, паўтараецца штогоду да сяньняшняга дня.

Тады рэжым ...„выігрываў“ дзяцей проці бацькоў. Падростак, які данёс на свайго бацьку, быў лічаны ледзь што не за нацыянальнага героя. Яго паступак апісвалі ў газэтах, былі нават выпадкі нагароды малалетных даносчыкаў высокімі дзяржаўнымі ад'знакамі за „рашучае паборваньне клясавага ворага“ ў постаці... ўласных бацькоў.

Роўналежна — рэжым даваў рэванш дзецям і моладзі заводжваньнем ледзь што ня поўнае „пайдакратыі“ (улады дзяцей) у школах, церпячы доўгія гады бяскарнае тэрорызаваньне настаўнікаў дзяцьмі.

Але мінуў пэрыяд „ваеннага камунізму“, мінула „ударная разбудова соцыялізму“ разам з часамі „першай пяцілеткі“ і як кажа адзін сержант — герой популярнае пасьляваеннае повесьці: „вайна скончылася — цяпер пачынаецца праўдзівае войска“.

Добры майстар, сумленны бугальтэр, салідны бюракрат — атрымалі ізноў належнае ім месца ў грамадзкай іерархіі, зараз-жа пасьля сякой-такой нармалізацыі штодзеннага жыцьця. І якраз яны пачынаюць што раз дык болей быць „стаўпамі грамадзянства“ ў краіне „дыктатуры пролетарыяту“, якраз яны становяцца з дня на дзень што раз дык болей *благонадежным* элемэнтам.

І наадварот — моладзь, ішоўшая яшчэ год-два таму ў першых радох „ударнікаў“, што раз дык выразьней бунтуецца проці, нават досыць лёгка, унармованых варункаў быту. Гэта зразумела. Бо, пасьля столькігадовай ненармальнай натугі фізычнай, а асабліва псыхічнай — моладзь чуецца расчарованай дасягненымі рэзультатамі і ў штодзенных варунках шэрага быту — блізка што зусім ужо выбеленага з рэвалюцыйных чараў — можа толькі... дзыгаць з парашутам“...

Улады рэклямуюць „парашутаманію“, як геройства, сумысьля выбіраючы *меншае зло*, чымсь „левы ўхіл“, што ахапляе больш за ўсё моладзь, мацней разьвітую інтэлектуальна.

Цяпер ролі „айцоў і дзяцей“ у Саветах зьмяніліся: сяньня пасобныя бацькі робяць даносы ў прэсе на сваіх „вырадкаўсыноў“...

Тая самая „Комсомольская Правда“ і ўвесь бальшавіцкі рэжым цяпер ужо цалкам стаіць на старане бацькоў.

— Павядзеньне маладога чалавека, — піша „Комсом. Правда“, які чуе сябе ў сям'і як *кватэрант*, які ёсьць грубым перад бацькамі, які забывае пра элемэнтарны сыноўскі абавязак, — гэткае павядзеньне камсамол будзе асуджваць, як некамуністычнае і чужое нашаму грамадзтву. Малады чалавек адвярнуўся да бацькоў плячыма. Шануе „ударнікаў“, а бацькаві свайму — таксама *ударніку* — грубіяніць. Ёсьць добрым таварышам, але ўласнай сястры найвідочней ня лічыць за таварыша“...

Констатуючы гэта ўсё, галоўны орган саюзу камуністычнай моладзі піша цэлае павучэньне, чаму бацькоў трэба паважаць. А перш за ўсё таму, што „ў гады царызму, у баёх хатняе вайны і на геройскім фронце працы яны здабывалі для маладога пакаленьня шчасьце (?!)“ і г. д.

Улада павярнула на старану бацькоў проста, як відаць, таму, што баіцца, каб распушчаная ў сямейных адносінах моладзь не перастала, пры аказіі, выказваць „сыноўскую любоў і паважаньне“ самому рэжыму.

Адвагу савецкай моладзі ў дзыганьні з вялікіх вышыняў з парашутамі п. Отмар тлумачыць свайго роду адчайнасьцю — жаданьнем „уцячы ад запраўднасьці“, якую ён характарызуе гэтак:

— „Бо савецкая моладзь дзыгае з парашутамі з вышыні блізка што 8 кілёмэтраў, тады як нармальны чалавек павінен быў-бы ў тамтэйшых варунках проста дзыгнуць з чацьвёртага этажа без парашуту. Тымчасам гэтая моладзь нават і на такіх вышынях ня ўжывае кіслароднага апарату, недастачу якога, ў часе майго пабыту у СССР, я няраз адчуваў... на паверхні зямлі“...

## Збройныя сілы Абісініі.

Д-р Багдан Рыхтэр падае ў „Gazecie Polskiej“ цікавую корэспондэнцыю з Суэцу за бягучы верасень месяц пра збройную сілу Абісініі (Эфіопіі).

Корэспондэнт адразу зазначае што: „Лік эфіопскае арміі стан яе азброеньня, вышкаленьня і магчымы плян вайны—усё гэта зьяўляецца цяпер тэмаю менш ці больш фантастычных дагадак, залежных ня столькі ад точных даных — каторых не стае зусім — колькі ад тэмпэрамэнту і поэтычных здольнасьцяў журналістага“.

Д-р Рыхтэр робіць засьцярогу, што ён „на гэтыя тэмы з абісінскім царом яшчэ не гаварыў і што не зьяўляецца ён конфідэнтам абісінскага гэнэральнага штабу, (які зусім ня істнуе)“. Аднак корэспондэнту ўдалося гаварыць з выдатнымі знаўцамі краю, якія правялі ў Аддіс-Абэбе доўгія гады ў даволі блізкай стычнасьці з урадам, каб быць добра паінфармованымі аб справах абароны.

— Усю эфіопскую армію,— піша д-р Рыхтэр, — можна, ў цяперашні час, падзяліць на заўсёдную і незаўсёдную. Заўсёдная налічвае цяпер 100.000 жаўнераў босых, але апраненых стараньнямі ўраду ў штосьці, што можна лічыць за абмундзероўку, ды азброеных зусім новачаснымі стрэльбамі. Справа з амуніцыяй ня так адчайная, як прадстаўлялі ў Эўропе, але няма ў ёй і тае лішкі, якую маюць італьянцы. Што датычыць машынных карабінаў (кулямётаў), дык адзін з інфармаваўшых п. Рыхтэра знаўцаў, меўшых спэцыяльную магчымасьць зацікавіцца гэтаю справаю, цьвердзіць аднак-жа толькі, што абісінцы маюць іх больш як 200. Але „пляфону“ ніхто ня можа азначыць, бо ня ведае яго нават сам ваенны міністар. У кожным выпадку цыфра 1400 зьяўляецца бязумоўна моцна пераўвялічанай. Рэч горшая, што няма ў гэтай зброі аднароднасьці, бо „працуюць“ разам Гочкісы, Шкоды, Левісы і Максімы і то самых розных модэляў. Пра артылерыю ў практыцы няма чаго й казаць. Новачасныя палявыя гарматы будуць ужыва-

# Дзяўчына.

*(Расказ безработнага).*

(Глядзі № 22 „Роднага Краю“).

І вось, праз чатыры бурныя гады, ізноў той самы Дзеньгорад. Але-ж ці той самы? О, які ён іншы нейкі! Пусты і глухі. Зьбяднелы і абдзёрты. Нават Нёман, быццам тужліва, быццам плачучы, нясе свае быстрыя струі на Захад. Старое жыцьцё гэтага гораду загінула, новае—гняло сваёю невядомасьцю.

Пачуў я, што фармуюцца беларускія вайсковыя аддзелы дзеля барацьбы з бальшавікамі, барацьбы за патоптаную імі Беларусь. Аджыў крыху духам, паступіў у свае войска. Аднак нічога з гэтага ня выйшла. Беларусь мала аб' сабе падумала ў гарачы час...

Адзінота навяла мяне на думку напісаць Верцы, даведацца, што з ёю? Напісаць проста ў Бакшты. Калі жывая і здаровая, дык напэўна адпіша! Калі не — дык што-ж рабіць? Можа хто іншы — сваяк яе—дасьць адказ на пісьмо?

І я напісаў. Напісаў папрыяцельску, на *ты*. Разказаў, на цэлым аркушы паперы, пра ўсё, што перажыў за ваенныя гады.

Адказ не замарудзіў прыйсьці. Але хай ён лепш ня прыходзіў-бы! „Ня ведаеш броду, дык ня лезь у воду“ — магла-б коратка адказаць Верка. Яна іначай адказала. Вось яе словы:

Былы мой добры дружа!

Вельмі дзякую Вам за Вашу доўгую памяць. Хоць Вы пісалі наўгад, пісьмо Вашае дайшло да мяне. Вы жаліцеся на сваю адзіноту. Што-ж я параджу Вам? Самі Вы вінаваты ў гэтым. Шмат дзе былі Вы за вайну, шмат чаго бачылі. Няраз глядзелі проста сьмерці ў вочы. Але Вы непатрэбны былі ёй. Дзякуй Богу — Вы жывеце. А я?... Я даўно замужам і дасюль шчасьліва. Хоць, нашто я гэта пішу Вам? Ну, але паміж намі, у тым маладым нашым прыгожым мінулым, заўсёды панавала праўда. Вы навучылі мяне найбольш любіць яе. Дык вось яна — голая праўда! Прачытаўшы Вашае пісьмо, я спачатку думала ўтаіць яго ад мужа, спаліць (бо клямка запала — усё скончана!) і зусім Вам не адпісваць. Але парадзілася з мужам і даказала яму, што Вы нічым не заслужылі лішняга болю душы, які магло-б павялічыць Вам маё маўчаньне. Муж мой ведае вельмі добра, што адносіны нашыя былі чыстыя, і пазволіў мне адпісаць Вам, як сабе хачу. І я адпісваю... Не, гэта ня я, ня гэтая, маці траіх дзяцей, Вераніка... (не называю Вам свайго новага прозьвішча, бо і нашто яно Вам?), а піша Вам тая, ранейшая, горача і шчыра, першым пачуцьцём дзявочага сэрца, кахаўшая Вас

Верка Круцінская.

Вось яна — дзяўчына, якую я знаў! Што ні слова, дык *вы* ў гэтым яе апошнім пісьме; усё роўна, як нажом па сэрцы!

Ясна, што я больш ня пісаў ёй. І ніколі ўжо не напішу“...

---

Ваўчыцкі скончыў свой расказ, цяжка ўздыхнуў, утаропіўся ў мяне сваімі шырока расплюшчанымі вачыма і бачачы, што я зьдзіўленна маўчу, выцягнуўся на плячох на ўвесь свой рост, падставіўшы свой змучаны твар гарачаму сонцу.

Я сеў каля Ваўчыцкага, з паўгадзіны нярухома ляжаўшага тварам да сонца, з моцна заплюшчанымі вачыма, і прасіў яго падарыць мне свой расказ. Ён маўчаў. Здавалася, што на яго „сьляпым“ твары іграе нейкі ціхі нявымоўны боль.

Нарэшце Ваўчыцкі нэрвова шпургануў да мяне свой расказ, сказаўшы збалелым голасам:

— Бяры, калі хочаш!...

Я ўзяў расказ і з таго часу маёю мэтаю было — апублікаваць яго. *Краўцоў Макар.*

Вільня, жнівень 1935.

ныя або адзінкова або, ў найлепшым выпадку, паўбатарэямі, дык і агнявое дзейнічаньне іх будзе мінімальным.

Ядром заўсёднае абісінскае арміі ёсьць імпэратарская гвардыя, муштрованая 7 гадоў бэльгійскаю місіяй на зусім эўропэйскі лад. Мае яна стрэльбы, кулямёты і зусім даволі гарматаў. Але гвардыя налічвае 2.500 ваякаў і праз гэта ня можа граць вялікае, ані стратэгічнае, ані тактычнае ролі; можа яна быць вельмі карысНай для ўнутранага адзінства абісінскіх сілаў, глушачы магчымыя сэпаратыстычныя выступленьні паасобных расаў (царкоў).

Армія незаўсёдная складаецца з дружынаў паасобных расаў. Гэта—рэдкія, слаба дысцыплінаваныя, малавышкаленыя палкі з фантастычнаю рознароднасьцю зброі. Дружыны гэткія, залежна ад магутнасьці раса, могуць налічваць 1000 жаўнераў і 75.000 іх, значыцца, могуць быць меншыя за батальён або большыя за 2 корпусы. Кожная дружына прызнае толькі свайго раса, трымаючыся вернасьці яму. Злучэньне расаў пад адной камандаю ёсьць цяжкаю дыплёматычнаю задачаю на эрытрэйскім фронце, праведзенаю імпэратарам даволі ўдачна, дзякуючы падтрыманьню магутнага раса Кассы. Як стаяць справы на самалійскім фронце, аддзеленым большаю адлежнасьцю, зложаным блізка што з незалежных плямёнаў, трудна сказаць.

Агульную моц гэтае незаўсёднае арміі ніхто ня мае магчымасьці нават прыблізна азначыць. Можна толькі сказаць ня больш таго, што яна перавышае 200.000. Зброя гэтых ваякаў складаецца з стрэльбаў рознага роду — ад пістонных стрэльбаў да аўтаматычных карабінчыкаў Вінчэстэра. Шмат хто мае рэвальвэры, асабліва барабанныя вайсковага ангельскага тыпу, усе носяць якую-небудзь халодную зброю: меч, шаблю (арабскую ці эўропэйскую), дзіду і інш. Часьць гэтае арміі, на паўночным фронце, азброена апошнім часам швэдзкімі новымі стрэльбамі і праходзіць элемэнтарную палявую муштру. Недастача набояў для найважней шага „курсу"—страляньня, не зьяўляецца вялікім мінусам, бо кожны эфіоп добра азнаёмлены са стрэльбаю з дзіцячых гадоў і, як сьведчаць шмат якія падарожнікі, страляе цэльна, спэцыялізуючыся пападаць у мэту на далёкай адлежнасьці.

Якія ёсьць баявыя шансы гэтае арміі, лік якое вельмі асьцярожна можна спрабаваць устанавіць на якіх-нібудзь 300.000?

На фронце эўропэйскім гэтая армія ня мела-б найменшых шансаў нават працівіцца паважна куды слабейшай за яе лікам эўропэйскай арміі. Але ня трэба забываць, што ў страшэнна „падзёртых" абісінскіх горах, у крутых, вузкіх і глыбокіх міжгор'ях састромымі сьценамі, у густой калючай джунглі, што вельмі добра замяняе сабою перашкоды з калючага дроту, у багністых цёмных экватарыяльных пушчах, заросшых травою і ліанамі, тэхнічная перавага сучаснае зброі значна падае.

Абісінцы—народ дзікі і пасвойму вечна ваяўнічы. Кожны з іх, калі бачыць сабе крыўду, дык хапаецца за стрэльбу, зьбірае некалькі сваякоў ды прыяцялёў і сам шукае сабе справядлівасьці. У гэткіх варунках усё жыцьцё Абісініі гэта—бязустанная вайсковая школа, вечная падрыхтоўка да вайны, асабліва партызанскае.

Голад, холад і сьпёка (якія могуць мяняцца між сабою ў адзін дзень), горнае рэдкае паветра — усё гэта загартавала абісінца, робячы з яго ідэальны жаўнерскі матар'ял, калі дадаць яшчэ да гэтага, што сьмерць і раны ён лічыць за рэчы, якія належаць да штодзеннага жыцьця, а голад яму —брат. Недастача лепшых спосабаў лёкомоцыі прывучыла абісінца да маршаў па гарыстым абшары з значным грузам, па скалах ён поўзае, як *colobus* — звычайная эфіопская малпа.

— Нязначная сама сабою, — заключае д-р Рыхтэр — абісінская армія не зьяўляецца ўсё-ж такі, на сваім сьметніку, праціўнікам, якога можна бясьпечна лёгкаважыць.

# Гаспадарчы аддзел.

## Асновы травапольнай сыстэмы земляробства.

Аднэй з найважнейшых частак так балючага ў нас зямельнага пытаньня зьяўляецца справа падняцьця ўраджайнасьці. Зямельны голад, які перажывае беларускае селянства ўжо даўжэйшы час, ёсьць вынікам ня толькі таго, што сяляне маюць мала зямлі, але яшчэ і таго, што ўраджаі на нашых глебах вельмі слабыя. Зямельнага голаду пазбавімся толькі тады, калі, апрача павялічэньня зямельнай плошчы дробных гаспадарак, пачнецца ўсьцяж і павялічацца ўраджайнасьць глебы. Досьледы паказалі, што ўраджаі на нашых землях можна значна павялічыць. Ужо пры існуючых цяпер агрыкультурных спосабах ураджай збожжа можна падняць да 4 тон у сярэднім на гэктары. Знача няма чаго баяцца, што зямля ня зможа пракарміць усьцяж павялічваючаеся жыхарства. Перад намі шырокія магчымасьці, толькі трэба іх умела выкарыстаць.

Прафэсар В. Вільямс у сваёй брашуры „Праблема ўраджайнасьці" даказвае, што адзіны спосаб падняцьця ўраджайнасьці глебы ў гаспадарках з адсталай зямельнай культурай ёсьць завядзеньне т. зв. травапольнай сыстэмы земляробства. Бязумоўна сыстэма гэтая заслугоўвае на нашую ўвагу, і дзеля гэтага падамо тут аснову гэтай сыстэмы, хаця-б у кароткіх галоўных рысах.

Асновай травапольнай сыстэмы ёсьць тое, што замельная плошча краю, як вадападзелы, спады і долы павінны быць як найлепей выкарыстаны адпаведнымі расьлінамі, добра прыстасаванымі да ўмоваў паасобных зямельных плошчаў. Паводле гэтай сыстэмы вадападзелы, найкарысьней заняць лесам, які можа выкарыстаць глыбейшыя грунтавыя воды. Апрача таго, лес на вадападзелах зьяўляецца наагул добрым рэгулятарам вільгаці. Дзеля гэтага нішчыць лес на вадападзелах ня можна.

Пад земляробскую культуру такім чынам могуць быць заняты толькі спады і долы. На спадах звычайна вядзецца палявая гаспадарка, а долы пакідаюцца для пасьвішчаў і сенажацяў. Травапольная сыстэма вымагае, каб гаспадараньне на палёх і сенажацях вялося не аднолькава, г. зн., што на палёх павінен быць севазварот адзін, а на сенажацях другі. Сыстэма гэтая выгаднейшая ў параўнаньні з іншымі спосабамі гаспадараньня, бо пры ёй расьліны самі награмаджаюць перагной і гэтым самым павялічваюць ураджайнасьць глебы. Перагной у глебе неабходны ня толькі дзеля таго, што ён зьяўляецца пажыўным матэр'ялам для расьлінаў, але яшчэ і дзеля таго, што дадатна ўплывае на будову глебы, якая дзякуючы яму становіцца грудкаватай. Пры іншых гаспадарчых сыстэмах арганічны матэр'ял дадаецца ў глебу ў постаці хлеўнага ці зялёнага гною пажніўных рэштак і т. п. Апошнімі спосабамі запасьці ў глебе патрэбную колькасьць перагною амаль немагчыма, бо пры іх арганічныя матэр'ялы ўводзяцца ў глебу пры дапамозе апрацоўкі яе (воркі), а трэба ведаць, што якраз варушэньне глебы раскладае існуючы ўжо ў ёй перагной, які толькі пасьля гэтага робіцца добрым пожывам для расьлінаў.

Пры травапольнай сыстэме палі засяваюцца на некалькі гадоў шматгадовымі травяністымі расьлінамі, якія адзначаюцца тым, што карнявыя прарасткі гэтых расьлінаў ў глыбокую восень абміраюць і застаюцца ў глебе; на другі-ж год, з прыходам цяпла, вырастаюць прарасткі новыя. Такіж чынам мы бачым, што з кожным годам колькасьць абмёршых каранёў у глебе павялічваецца, калі расьце шматгадовая травяная расьліна. Абміраючыя ў восені карэньні траваў не складаюцца зараз-жа, бо зямля ў гэты час насычана вадою і дзякуючы гэтаму немагчымы да яе доступ паветра. У наступную вясну трава пачынае ізноў расьці і зямлю не варушаць, а дзеля таго знаходзячыяся ў глебе мёртвыя карані з тых самых-жа прычынаў раскладаюцца таксама вельмі павольна. Як бачым, чым даўжэй расьце на полі шматгадовая трава, тым болей награмаджаецца ў глебе перагною. Аднак трымаць поле доўга пад травамі не аплачваецца, бо сена дае даход значна меншы, чым іншыя палявыя гаспадарчыя расьліны. Практыка ўстанавіла, што найкарацейшы час, за каторы шматгадовыя травы могуць запасьці ў глебе дастатачна перагною—ёсьць два гады. Толькі пры двухгадовым карыстаньні з траваў на пёлёх можна чакаць на павышэньне ўраджайнасьці глебы. Пасьля травы можна сеяць абы якую гаспадарчую расьліну і ўраджай яе абавязкава павысіцца прынамся ў два разы, чым было дагэтуль. Тая ўраджайнасьць, якую поле набывае за час росту на ёй шматгадовае травы, хутка ня зьнікае, а трывае прыблізна 6-7 гадоў. І вось у часе гэтых 6-7 гадоў вядзецца на полі культура палявых расьлінаў, пераважна збажовых, а пасьля поле ізноў ідзе на два гады пад траву.

Пры завядзеньні травапольнае сыстэмы, трэба трымацца пэўных правілаў. Ня можна, напрыклад, пасьля шматгадовых траваў сеяць на полі азімага збожжа, а за імі павінныісьці абавязкава яравыя збажыны. Прычына такога паступаньня вельмі простая: мы мусім ўсялякімі спосабамі старацца, каб награмаджаны шматгадовымі травамі ў глебе арганічны матэр'ял не раскладаўся хутка і не прападаў дарма, а гэтае раскладаньне пры летняй ворцы сухой глебы ідзе найшыбчэй.

Пры травапольнай сыстэме нявыгадна на палёх культываваць тыя расьліны, якія для свайго добрага росту вымагаюць шмат вільгаці ў глебе. Такія расьліны карысьней пераняcьці ў сенажатны клін. Такім чынам у сенажатным кліне будуць ісьці: лён, каноплі, буракі і, апрача таго, розныя агародныя расьліны. Агулам кажучы, усе каштаўнейшыя ў нас гаспадарчыя расьліны пры травапольнай сыстэме варта сеяць у сенажатным кліне. Аснаўная розьніца паміж палявым і сенажатным клінам палягае ў тым, што ў палявым кліне 6-7 гадоў сеецца збожжа і пасьля ідуць два гады шматгадовыя травы, а ў сенажатным— севазварот зусім адваротны: 6-7 гадоў растуць травы, а пасьля сенажаць распрацоўваецца і культывуюцца на ёй у працягу двух гадоў палявыя расьліны.

# Царскі памятнік.

*(З мінуўшчыны аднаго беларускага кутка).*

Восень 1913 году была апошняю восеньню „старога" мірнага часу. Далей, як ведама, вайна пачалася — вялікая вайна.

У янаўскай валасьці, у гэту апошнюю мірную восень здарэньне было.

Жыла сабе валасьць, няведама з якога часу, мела вялізны будынак валаснoй канцэлярыі разам з народнаю школаю аж на дзьве клясы, мела валаснога старшыню, пісара, валасны суд і ўсё іншае, як у кожнай валасьці старога часу. На сьцяне, ў канцэлярыі, вісеў партрэт цара Мікалая 2-га, а больш ніякік прадметных памятак яго панаваньня, як быццам, і ня відаць было.

У раён, куды ўваходзіла янаўская валасьць, назначылі новага земскага начальніка. Быў гэта праштрафлены ў адным конным палку паручык Акінфаў. Полк выпер яго ў запас, а бацька яго, будучы адным з магутных губэрніяльных бюракратаў, дабіўся ад губэрнатара новае службы для свайго сына Ірынарха Міхайлавіча Акінфава.

Акінфаў пачаў сваю службу над сялянамі тым, што грэў іх, як толькі мог: ідзе дзядзька з бараною з поля, моцна брыль на вочы насунуўшы; едзе насустрэчу Акінфаў — яго благародзіе, сам земскі начальнік. Дзядзька ўзяў пад брыль, але шапкі зусім ня скінуў туга на беднай галаве сядзела.

— Ты гэта што? — пытаецца грозна Акінфаў, — вароны лічыш?

— *Нікак нет*, — пасалдацку рапартуе дзядзька.

Дык што ты — шапкі скінуць ня ўмееш? Як цябе завуць?

— Дарахвей Шышка.

— Так і запішам, — важна рашае Акінфаў, — *далажы* свайму сельскаму старасьце, што я аштрафаваў цябе на паўрубля.

За што, ваша благародзіе? моліць дзядзька, — даруйце, калі ласка...

— А ты што-ж чэсьці не аддаеш начальству, як трэба, га? *Ступай!*...

Дзядзька часаў патыліцу праз усю сваю далейшую дарогу, ішоў да старасты і рапартаваў яму, быццам таму ефрэйтару ў салдатах, пра штраф, атрыманы ад земскага начальніка.

Пра строгасьць гэтага начальніка пачалі гаварыць па ўсіх вёсках. Некаторыя старэйшыя дзядзькі нават жалабу пісаць губэрнатару зьбіраліся.

А начальнік Акінфаў стараўся нясьці царскую службу пасвойму.

Задумаў ён памятнікі цару (тады яшчэ жывому) стаўляць.

І пачаў гэтую справу з янаўскай валасьці.

У адзін халодны дзень познай апошняй мірнай восені, па загаду Акінфава, сабраўся валасны сход: кожны гаспадар дому зьявіўся, усе старасты сельскія і тры народныя настаўнікі, запрошаныя асабіста Акінфавым праз валаснога пісара.

Стаўшы перад сходам у віцмундзеры, з цяжкім пазалачаным ланцугом на шыі, на якім трымаўся пышны мідаль — азнака службовай годнасьці, — Акінфаў сказаў кароткую прамову аб патрэбе надзвычайнага асыгнаваньня 1200 рублёў на памятнік яго вялічнасьці.

Найвышэйшы ростам сябра сходу, нядаўны яшчэ гвардзейскі унтэр-афіцэр, Панас Ірха з вёскі Худзішак першы папрасіў слова:

— Пазвольце спытацца, ваша благародзіе, дзе той памятнік мае стаяць?

— А тут вось, на падворку, каля канцэлярыі, дзе-ж яму стаяць? — адказаў Акінфаў.

— Тут?.. Ля канцэлярыі?.. Памятнік цару?—загулі галасы...

— Ціха! — зароў Акінфаў. — Тут вам не *базар?*... Хто хоча што сказаць — бяры слова і кажы, а ня так—усе разам!

Сівы, прысадзісты дзед — Карпей Гіль — з вёскі Абадранкі, праціснуўся наперад.

— Пазвольце слова, ваша благародзіе! — сказаў ён.

— Кажы, што маеш, дзеду! — спакайней прамовіў начальнік.

*Звончык.*

*(Працяг будзе).*

У выніку такое сыстэмы аднячасна падносіцца ўраджай ня толькі палявых расьлінаў, але і ўраджай траваў. Павышэньне ўраджаю травы на сенажацях пры травапольнай сыстэме тлумачыцца наступным: калі доўгі час на адным месцы расьце шматгадовая трава, то ўсе прасторы ў глебе пасьля некаторага часу запаўняюцца абмёршым карэньнем і такім чынам да глебы ня мае належнага доступу ні паветра, ні дажджавая вада, а знача травы пры такіх умовах церпяць ад нястачы вады, а разам з гэтым і іншых пажыўных матэр'ялаў. Калі-ж сенажатная глеба пэрыядычна ідзе пад палявую культуру, то нагрмаджаныя ў глебе мёртвыя карэньні, дзякуючы абробцы зямлі, раскладюцца і даюць шмат пажыўнага матэр'ялу так для палявых расьлінаў, як і для ідучых за імі траваў. Апрача таго, засеяная нанава трава ўпрацягу 6-7 гадоў будзе мець дастатачны даплыў да карэньняў дажджавое вады і паветра. Пасьля гэтых 6-7 гадоў, калі прасторы ў глебе будуць пазатыканы мёртвым карэньнем, ідзе распрацоўка сенажаці ізноў.

Зьмена сыстэмы гаспадараньня ня так простая і да яе трэба прыступаць паступова і з пэўным плянам. Для таго, каб у ўмовах нашае вёскі перайсьці да травапольнай сыстэмы, трэба ў першую чаргу пастарацца, каб з сенажацяў была адведзена залішняя вільгаць. Мусім таксама падкрэсьліць, што новую сыстэму не абавязкава адразу ўводзіць цалком. Можа некаторы час, нават і даўжэйшы, трываць камбінаваная сыстэма. На заканчэньне мусім сказаць, што і пры сучасных умовах ёсьць магчымасьць нашым сялянам у палявыя севазвароты ўводзіць шматгадовыя травы пры абавязкавым двухгадовым карыстаньні з іх. Таксама ў некаторых нашых сялян ёсьць досыць мурожных сенажацяў, якія даюць зусім ліхія ўраджаі. Вось да распрацоўкі гэтых сенажацяў мы-б радзілі зараз-жа прыступіць. Такія сенажаці, пратрыманыя некалькі гадоў пад палявой культурай і пасьля засеяныя ізноў травою, маглі-б даўжэйшы час даваць багатыя ўраджаі сена.

### Што рабіць з праросшым у снапох зярном?

Да стыхійных зьявішчаў, якія шмат шкоды прыносяць селяніну, залічаюцца летнія дажджы, якія часта льюць беспрарыўна ў часе збору збожжа. Зярняты ад вільгаці разбухаюць і даюць расткі, а салома чарнее і траціць кармавую вартасьць.

У прарастаючым зярне актывуюцца энзымы, дзякуючы чаму запасьныя пажыўныя часткі зёрнаў пэратвараюцца ў іншыя формы, лёгка распушчаючыяся ў вадзе, і выпаласківаюцца дажджом. Апрача таго значная частка запаснога матэр'ялу ідзе на аджыўленьне растка. Праросшыя зёрны перастаюць быць трывалымі і лёгка гніюць. Каб не дапусьціць да канчальнага зьнішчэньня зёрнаў, трэба: 1) не пакідаць доўга зёрны ў калосьсях, 2) зярняты павінны быць хутка і дакладна высушаны і 3) такое збожжа павінна быць як найхутчэй зужыта.

Сушыць праросшае збожжа можна на сонцы, або ў добра праветраных будынках, рассыпаўшы яго тонкім пластом і часта перамешваючы. Калі і пасьля такое сушкі зярняты ўсё-ж такі плясьнеюць, то іх трэба зараз-жа высушыць у печы і да такой ступені, каб яны падпражыліся. Падпражаныя зярняты становяцца смачнейшымі і лепей страўнымі. Падпражаныя зярняты найлепей груба змалоць і ўжыць, як прымешку да корму жывёлы. Калі праросшае збожжа ўжо падгніло, то небясьпечна ўжываць яго і ў стане падпражаным; у такім прыпадку з падпражаных і размолатых зярнятаў трэба варыць пойла, якое найлепей даваць сьвіньням.

## На аўстра-нямецкай граніцы

Інспэктар аўстрыйскай жандармэрыі Шэрклер і дырэктар школы Крыбэр вярталіся з падарожжа ў Баварыю на самаходзе. На граніцы нямецкі пагранічнік, які знаходзіўся на аўстрыйскай тэрыторыі, маніўся іх затрымаць. Шэрклер энэргічна запратэставаў процiў гэтай спробы, у выніку чаго пагранічнік раніў яго стрэлам з рэвальвэра.

Аўстрыйскі ўрад патрэбаваў ад нямецкага ўраду неадкладнага сьледства.

## Плян блёкады Клайпэды

Француская прэса зьмяшчае паведамленьне з Бэрліну, згодна з якім нямецкае ваеннае міністэрства разаслала тайны абежнік усім прадпрыемствам з просьбай паведаміць у працягу тыдня колькасьць і прозьвішчы тых рабочых, якія ў прыпадку вайны будуць патрэбны для вытворчасьці. Газэты падчырківаюць, што весткі аб гэтым абежніку выклікалі ў дыплёматычных колах у Бэрліне вялікае зацікаўленьне, прычым гэты абежнік лучаць з дэкляраўцыямі і пагрозамі Гітлера ў сувязі з клайпэйдзкім пытаньнем.

Паводле словаў „Журналь" у Бэрліне ходзяць чуткі, што Нямеччына заключыла з нейкай дзяржавай „джэнтэльмэнскую згоду" па повадў Клайпэды.

Уважаюць, што Нямеччына намерана заблёкаваць Літву ад мора і зачыніць нямецка-літоўскую граніцу.

„Экформісіон" дадае, што падарожныя, прыбываючыя з Усход. Прусіі, расказываюць, што Усходняя Прусія перапоўнена войскамі.

## Ніякай надзеі.

Як паведамляюць францускія газэты з Жэнэвы, няма ніякай надзеі на мірнае вырашэньне італа-абісінскага конфлікту.

Ваенныя прыгатаўленьні Англіі на Міжземным і Чырвоным морах паказываюць на тое, што ангельскі ўрад паважна лічыцца з магчымасьцяй вайны.

З другой стараны работы „Камітэту 5-цёх" таксама не далі надзеяў на пасьпех.

## Гітлер нарабіў шуму.

На нядаўна адбытым у Нюрнбэргу Рэйхстагу Гітлер парушыў цэлы рад справаў, якія выклікалі вострае абурэньне ў ангельскай, савецкай, літоўскай і інш. прэсе. Гітлер нядвузначна падчыркнуў свае замеры захапіць Клайпэду. У прачытанай на адкрыцьці Рэйхстагу дэкляраўцыі, Гітлер адзначыў нарушэньне Літвой міжнароднае ўмовы адносна нямецкага насельніцтва ў Клапэйдзкім вокрузе. Гітлер дамагаўся, каб Ліга Народаў зьвярнула асаблівую ўвагу на гэткі стан рэчаў.

Адзначыўшы ў прамове VII-мы Зьезд Комінтэрну, Гітлер заявіў, што імкненьні ўцягнуць Нямеччыну ў рэвалюцыю будзе ў карані паралiжаваць. З гэтай прычыны савецкая прэса пачала антыгітлероўскую кампанію. У цэлым радзе артыкулаў гаворыцца аб імкненьні напасьць на СССР, крытыкуецца гітлероўская палітыка і высьмейваюцца гітлероўскія павадыры.

Ня менш абурана і ангельская прэса, якая выступае ў абарону жыдоў. Ня менш занепакоена ангельская прэса і замерамі Гітлера ў адносінах да Літвы. Зразумела, што гэтыя словы Гітлера не зьяўляюцца пустым гукам. Нарабіўшы шумок, Гітлер лёгка можа наварыць і кашы. Прыклад Саары зьяўляецца красамоўным доказам гэткае тактыкі Гітлера. Адным словам захоп Клайпэды стаіць на парадку дня нямецкае палітыкі. Як бачым, ваенныя хмары выпаўзаюць ня толькі на абісінска-італьянскім гарызонце, але і недалёка ад нас.

## Ізноў процiў вэрсальскага трактату

„Парі Суар" зьмясьціла артыкул кіраўніка нямецкай нацыянал-соцыялістычнай замежнай палітыкі д-р. Розэнбэрга. Артыкул прысьвечаны, галоўным чынам, пытаньню аб адносінах Нямеччыны да італа-абісінскага конфлікту і справе выхаду Нямеччыны з Лігі Нацый. Нямеччына, па словам Розэнбэрга, павінна была пакінуць Лігу, бо апошняя дбала толькі аб інтарэсах дзяржаваў, ваарўжоных да „зубоў". Ліга Нацый цярпліва адносілася да крыўдаў Вэрсальскага дагавору і не згаджалася на ваарўжэньне Нямеччыны.

У сучасны мамэнт маняцца Нямыччыне прыпісаць фантастычныя пляны, у сувязі з італа-абісінскім конфліктам. Нямеччына-ж занята выпаўненьнем сваёй унутранай праграмы — рэарганізацыі грамадзкага ладу і не намерана спыняць сваю мірную работу.

З задаваленьнем Нямеччына аднясецца да галасоў, каторыя выкажуцца процiў Вэрсальскага трактату. Даўно ўжо насьпеў час для перагляду Вэрсальскага дагавору ў той часьці, дзе гаворыцца аб Нямеччыне. Апошняя з задаваленьнем спаткала-б таксама кампрамісовае вырашэньне італа-абісінскага конфлікту. Але рашучы голас у гэтым пытаньні належыць не да Лігі Нацый, а да Лёндану, Парыжу і Рыму.

У заканчэньні Розэнбэрг выступае процiў колектыўнай сыстэмы захаваньня міру, лічучы гэтыя лёзунгі імглістымі формуламі палітычнай прапаганды.

## Абарона Эгіпту і Суэцкага каналу.

20 г. м. Англія выслала ў Эгіпет кавалерыйскі полк.

Як паведамляе „Стар", значная часьць учарашняга паседжаньня ангельскага габінэту міністраў была прызначана небясьпецы, якая ствараецца для Эгіпту і Суэцкага каналу ў сувязі з пасылкай двух італьянскіх змэханізованых дывізыяў у Лівію.

Газэта падчырківае магчымасьць сутычкі каля каналу.

Паводле чутак, Англія канчальна рашыла зачыніць Суэцкі канал у прыпадку італа-абісінскай вайны.

## Перавыбары Польшчы ў Раду Лігі Нац.

Дня 16 г. м. на паседжаньні Лігі Нацый пад старшынствам чэхаславацкага міністра Бэнэша разглядалася справа прызнаньня Польшчы права да паноўнага выбару яе ў Раду Лігі Нацый.

У выніку галасаваньня 45 галасамі процiў 7 пры 1 устрымаўшымся было прызнана Польшчы гэтае права паноўнага выбару яе ў Раду Лігі.

У апошнім галасаваньні,—ў параўнаньні з папярэднімі,—Польшча атрымала значна вялікшы лік галасоў, што тлумачыцца між іншым прыхільным да Польшчы становішчам скандынаўскіх дзяржаваў.

## Вынікі выбараў у Сэнат.

У нядзелю, 16 г. м., ува ўсіх ваяводзкіх гарадох Польшчы адбыліся, згодна з выбарным рэгулямінам, паседжаньні выбарных калегіяў, на каторых выбрана 64 сэнатараў.

З лічбы гэтай прыпадае на горад Варшаву і ваяводзтвы келецкае і львоўскае—па 6 сэнатараў; на ваяв. варшаўскае і лодзінскае—па 5 сэнатараў, на ваяв. люблінскае, кракаўскае і пазнанскае — па 4 сэнат., на ваяводзтвы віленскае, беластоцкае, тарнапольскае і сілескае — па 3 сэн., і на ваяв. навагрaдзкае, палескае, станіславоўскае і паморскае—па 2 сэнат.

На нашых землях выбраны ў Сэнат наступныя асобы:

*У ваяводзтве беластоцкім:*

1) Язэп Рышка — земляўласьнік з сакольскага павету.

2) Канстанцін Тэрлікоўскі — з Горадні.

3) Казімір Біспінг — земляўласьнік з ваўкавыскага пав.

*У ваяводзтве навагрaдзкім.*

1) Уладыслаў Мальскі—земляроб-каляніст.

2) Канстанцін Рдултоўскі, б. сэнатар.

*У ваяводзтве віленскім:*

1) Тадэуш Млодкоўскі — візытатар сярэдніх школаў у Віл. Школьным Кураторыюме,

2) Адам Пілсудскі — віцэ-прэзыдэнт гораду Вільні.

3) Александар Прыстар — палкоўнік.

*У ваяводзтве палескім.*

1) Пётр Олевіньскі — урадоўца Мін. Земляробства,

2) Язэп Таўбэ — падпалкоўнік.

## Літвінаў і Бэк.

На адным з паседжаньняў Лігі Нацый Літвінаў сказаў прамову, у якой востра выступіў процiў працiўнікаў колектыўнай сыстэмы захаваньня міру. У прамове сваёй Літвінаў зрабіў нядвузначныя алюзыі пад адрэсам Польшчы.

У сувязі з гэтым 16 г. м. у часе агульнай дыскусыі на паседжаньні Рады Лігі Нацый забраў голас польскі міністар замежных справаў Бэк і злажыў наступную кароткую заяву:

„Пане прэзыдэнце! Прамова, сказаная ў мінулую суботу Літвінавым, першым дэлегатам СССР, змушае мяне злажыць з гэтай трыбуны кароткую дэкляраўцыю.

У некалькіх сказах гэтай прамовы, п. Літвінаў зусім нядвузначна выказаў вельмі аднастаронны і арбітральны пагляд аб некаторых дыплёматычных актах, падпісаных праз мой край. Процiў падобнаму пастпаньню ўважаю неабходным злажыць тут найдалей ідучыя засьцярогі.

Ясна, што для майго ўраду падобныя апініі аб польскай палітыцы ня маюць значэньня.

Аднак я пераконаны, як прадстаўнік дзяржавы, сябры-заснавальніка Лігі Нацый, што такія спосабы пастпаньня, неадпавядаючыя абычаям, пануючым на гэтым высокім Паседжаньні, могуць толькі пашкодзіць лёяльнаму, міжнароднаму паразуменьню, каторае зьяўляецца неабходным каталізатарам нашага супрацоўніцтва".

Заяву міністра Бэка міжнародныя жэнэўскія колы прынялі з поўнай апрабатай.

## Вялікія манэўры ў Францыі

У некаторых акругох Францыі адбываюцца вялікія ваенныя манэўры. Дывізыённыя манэўры у От-Савуа канчаюцца. Яны мелі на мэце абарону гэтай мясцовасьці ад „ворага", атакуючага з поўначы ў напрамку Аннэсі.

У Шампані ў манэўрах прыймаюць учасьце шматлікія атрады рэзэрвістаў і рэспубліканскай гвардыі; ваенныя манэўры адбываюцца галоўным чынам у ваколіцах Монс, Аленкон і Мамэр.

## Зачыненьне гібралтарскага порту.

З Гібралтара афіцыяльна паведамляюць, што апублікована распараджэньне аб зачыненьні паўночнага ўваходу ў порт, а дзень пазьней улады зачынілі таксама і паўднёвы ўваход. У працягу цэлага дня над Гібралтарам лёталі ваенныя аэрапляны.

**Пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.